ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 8 ліпеня 2000 года

№ 52 (8121)

*Раённая грамадска-палітычная газета*

*Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР*

Цана 24 руб.

## Заўтра – Дзень работнікаў падатковых органаў

**Другі год работнікі падатковых органаў адзначаюць сваё прафесійнае свята. Да таго ж, заўтра спаўняецца 10 гадоў з дня ўтварэння падатковай службы Рэспублікі Беларусь. У мэтах удасканалення сістэмы кантролю за захаваннем падатковага заканадаўства, паўнатой і своечасовасцю ўнясення плацяжоў у бюджэт, павышэння адказнасці прадпрыемстваў, арганізацый і насельніцтва за выкананне падатковых абавязацельстваў у 1990 годзе была створана дзяржаўная падатковая інспекцыя Міністэрства фінансаў БССР. У кастрычніку 1994 года яна пераўтворана ў Галоўную дзяржаўную падатковую інспекцыю пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, а ў 1997 — у Дзяржаўны падатковы камітэт РБ.**

## Віншуем!



*Днямі ў калектыў інспекцыі дзяржаўнага падатковага камітэта па нашаму раёну прыйшла прыемная навіна — за шматгадовую, плённую працу і ў сувязі з 10-годдзем з дня ўтварэння падатковай структуры група работнікаў інспекцыі ўзнагароджана.*

*Так, галоўны падатковы інспектар аддзела падаткаабкладання фізічных асоб П.П.Акуліч атрымаў Ганаровую грамату інспекцыі дзяржаўнага падатковага камітэта па Магілёўскай вобласці. Аб'яўлена падзяка вышэйстаячай арганізацыяй: галоўным падатковым інспектарам аддзела падаткаабкладання юрыдычных асоб І.М.Зазерскай, Л.В.Бурынавай і старшаму падатковаму інспектару гэтага аддзела А.Л.Балабашковай, галоўнаму падатковаму інспектару аддзела падаткаабкладання фізічных асоб Т.Р.Есьман і старшаму падатковаму інспектару гэтага аддзела Л.С.Пятруша.*

*За вялікі ўклад у развіццё сістэмы падаткаабкладання Ганаровымі граматамі райвыканкама ўзнагароджаны: начальнік аддзела падаткаабкладання фізічных асоб І.І.Печань, намеснік начальніка аддзела ўліку, аналізу і спагнання плацяжоў — галоўны бухгалтар Н.М.Герасімовіч. Падзяка райвыканкама аб'яўлена начальніку аддзела ўліку, аналізу і спагнання плацяжоў В.І.Дайнека, інспектару аддзела падаткаабкладання юрыдычных асоб Г.Ф.Борэкавай.*

**(Працяг падборкі матэрыялаў да свята — на 3-й стар.)**

## ☆ ☆ ☆ ЗА БЕЗДАКОРНУЮ СЛУЖБУ ☆ ☆ ☆

***Днямі ў раённым аддзеле ўнутраных спраў адбыліся ўрачыстыя праводзіны на заслужаны адпачынак начальніка аддзялення крымінальнага вышуку маёра міліцыі І.Р.Дразда. Звыш трыццаці гадоў прысвяціў ён службе ў органах унутраных спраў і заўсёды быў дысцыплінаваным, акуратным пры выкананні службовых абавязкаў чалавекам, за што па праву заслужыў аўтарытэт і павагу ў калектыве. Нязменная задача супрацоўніка міліцыі абараняць жыццё, здароўе, правы, свабоды і інтарэсы грамадзян, грамадства і дзяржавы ад проціпраўных замахаў заўсёды была для яго найважнейшай.***

***За шматгадовую і бездакорную службу І.Р.Дрозд узнагароджаны Ганаровай граматай раённага выканаўчага камітэта. Яе ўручыў кіраўнік раённай "вертыкалі" А.С.Сцяпанчанка. Выступаючы на ўрачыстасці, ён адзначыў: "Я ведаю Івана Рыгоравіча ўжо больш 30 гадоў, і за гэты тэрмін ён паказаў сябе цудоўным спецыялістам". А.С.Сцяпанчанка падзякаваў І.Р.Дразду за старанную працу.***

***Загадам начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама Іван Рыгоравіч Дрозд заахвочаны прэміяй у памеры аднаго месячнага акладу. А начальнік РАУС падпалкоўнік міліцыі С.К.Марозаў ад імя супрацоўнікаў аддзела на добрую памяць уручыў яму каляровы тэлевізар.***



**На здымку:** ***І.Р.Дрозд сярод калег па рабоце.***

## ЗЛАЧЫННЫМ ПРАЯВАМ — ЗАСЛОНУ

**Па выніках работы за першае паўгоддзе бягучага года наш раённы аддзел унутраных спраў заняў першае месца ў сваёй падгрупе. Дасягнутае ў выкананні службова-аператыўных задач, планы на перспектыву былі абмеркаваны на адбыўшайся ў РАУС нарадзе, у якой прымалі ўдзел куратар аддзела, начальнік міжраённай пашпартна-візавай службы палкоўнік міліцыі В.К.Бондараў і кіраўнік раённай "вертыкалі" А.С.Сцяпанчанка.**

* * *

Ва ўмовах складанага сацыяльна-эканамічнага і крыміналагеннага становішча ў вобласці і раёне супрацоўнікамі РАУС прымаліся дзейсныя меры па лакалізацыі злачынных праяў і стабілізацыі сітуацыі.

Пэўны аб'ём работы выканан у ходзе рэалізацыі патрабаванняў Дэкрэтаў Прэзідэнта рэспублікі №1 і №15, у выніку чаго да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 6 грамадзян.

Праводзімыя прафілактычныя і аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы дазволілі ў першым паўгоддзі знізіць колькасць злачынстваў, рэгіструемых па лініях усіх службаў, на 3,4 працэнта, у тым ліку на 5,1 працэнта па лініі крымінальнага вышуку. Не было зарэгістравана такіх відаў злачынстваў, як згвалтаванне і падпал. Поўнасцю раскрыты ўсе наўмысныя забойствы, факты нанясення цяжкіх цялесных пашкоджанняў, рабаванняў, хуліганстваў і ўгонаў аўтатранспарта. У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года намецілася скарачэнне невідавочных і цяжкіх злачынстваў, рабаванняў, крадзяжоў з кватэр, супрацьзаконных дзеянняў, учыненых непаўналетнімі.

У структуры агульнай злачыннасці злачынствы па лініі крымінальнага вышуку склалі 74,5 працэнта, аддзела эканамічнай злачыннасці — 10,7 працэнта. У сярэднім у раёне штосуткі рэгістравалася 1,2 злачынства, у тым ліку 0,7 — цяжкіх відаў.

Нягледзячы на прымаемыя супрацоўнікамі міліцыі меры, аператыўнае становішча застаецца складаным. Намеціўся рост бытавой злачыннасці, вулічнай, супрацьзаконных дзеянняў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення.

Выкрыта 119 асоб, вінаватых ва ўчыненні ўказаных злачынстваў, з іх 4 непаўналетніх, 41 чалавек ва ўзросце 18-24 гадоў, 36 — 30-49 і 19 — ва ўзросце 25-29 гадоў. У злачынствах прымалі ўдзел 16 жанчын.

Узровень злачыннасці за справаздачны перыяд знізіўся ва ўсіх сельсаветах, рост назіраецца ў райцэнтры: яго ў асноўным "забяспечылі" крадзяжы асабістай маёмасці грамадзян (іх учынена 45, у тым ліку 8 з кватэр). Увогуле сярод злачынстваў, зарэгістраваных па лініі крымінальнага вышуку, самая значная ўдзельная вага крадзяжоў — 70 працэнтаў.

За першае паўгоддзе па лініі крымінальнага вышуку раскрыта 146 злачынстваў, у тым ліку 101 — цяжкіх відаў. Лепшая раскрывальнасць — на тэрыторыях Скрыпліцкага, Стайкаўскага і Казуліцкага сельсаветаў (участковыя інспектары А.М.Русецкі, А.А.Дзятлаў, В.Л.Раманенка і А.В.Кірычэнка, С.В.Чарноў і В.А.Ісляўскі).

Супрацоўнікамі групы эканамічнай злачыннасці выяўлена 24 злачынствы (9 фактаў раскраданняў, з якіх 2 у буйных памерах, 4 раскраданні шляхам крадзяжу). Урон па іх склаў 953 тысячы рублёў. Асноўная колькасць злачынстваў выяўлена на аб'ектах аграпрамысловага комплексу.

На прафілактычных уліках у РАУС знаходзіцца 842 чалавекі, у тым ліку 200 — раней судзімых асоб, з якіх 92 з непагашанай судзімасцю, 100 — фармалістаў і 8 паднаглядных, а таксама 305 асоб, якія злоўжываюць спіртнымі напіткамі, 191 асуджаны да мер пакарання, не звязаных з пазбаўленнем волі, 129 — па сістэме "Быт".

За першае паўгоддзе гэтага года спынена 3560 адміністрацыйных правапарушэнняў (дробных хуліганстваў, учыненых асобамі ў стане алкагольнага ап'янення, фактаў распіцця спіртнога або з'яўлення ў п'яным выглядзе ў грамадскіх месцах, самагонаварэння, п'янства на вытворчасці). У ЛПП за ўказаны час накіравана 2 чалавекі.

Па лініі ДАІ зарэгістравана 12 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінула 4 чалавекі, паранена — 9. За парушэнне правілаў дарожнага руху прыцягнута да адказнасці 2010 чалавек, затрымана 157 вадзіцеляў, якія кіравалі аўтатранспартам у нецвярозым стане.

Лепш іншых спрацавалі інспектары ДАІ В.В.Кавалёў і В.С.Неруш.

Праводзімыя прафілактычныя мерапрыемствы дазволілі спыніць рост падлеткавай злачыннасці. У бягучым годзе ў адносінах 4 непаўналетніх закончаны і накіраваны ў суд крымінальныя справы. Выяўлена і пастаўлена на ўлік 74 сям'і, дзе бацькі ўхіляюцца ад выхавання дзяцей, і 12 непаўналетніх правапарушальнікаў).

У цэлым можна канстатаваць, што крыміналагеннае становішча знаходзіцца пад кантролем міліцыі. І далей намі будуць прымацца меры па ўмацаванню правапарадку, узмацненню барацьбы са злачыннасцю, аховы правоў і законных інтарэсаў грамадзян.

**Сяргей КОСТКА,**
**начальнік аператыўна-арганізацыйнай службы РАУС.**

## Запытвайце — адказваем

## ПОМНІК ВОІНАМ-ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІСТАМ

***"Цікава, што гэта за камень устанаўліваюць каля кінатэатра "Кастрычнік"?"***

**П.А.СЕЧКАРОЎ,**
**жыхар райцэнтра.**

***З гэтым пытаннем мы звярнуліся да архітэктара раёна С.М.Іваніцкага, які паведаміў:*** *"Каля кінатэатра "Кастрычнік" будзе ўзведзены помнік воінам-інтэрнацыяналістам, якія загінулі пры выкананні воінскага абавязку. Вакол яго добраўпарадкоўваецца тэрыторыя: зроблены дарожкі, устаноўлены лаўкі для адпачынку, скрынкі для смецця. Вясной мяркуецца высадзіць кветкі на разбітых клумбах".*

## СЕНАКОС ПАДЫХОДЗІЦЬ ДА ЗАВЯРШЭННЯ

Уборку траў завяршылі калгасы "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, "Радзіма", імя Кірава, імя Дзяржынскага, імя Калініна, СКП "Чырвоны баец" і "Ніва", Жыліцкі сельгаскаледж, саўгасы імя Кірава і "Шыннік". Усяго па раёне нарыхтавана 5086 тон сена, 16894 — сенажу, 1133 — сіласу, 64 — травяной мукі. У разліку на ўмоўную галаву грамадскага пагалоўя маецца па 4,2 цэнтнера кармавых адзінак. Больш іншых кармоў нарыхтавалі СКП "Чырвоны баец" і "Ніва", саўгас імя Кірава. Тут маецца адпаведна па 8,4, 7,2 і 7,3 цэнтнера кармавых адзінак.

Пасля прайшоўшых дажджоў нядрэнна набірае сілу кукуруза, якой у гаспадарках пасеяна 2828 гектараў.

## ПЧАЛЯРСТВА — ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ ГАЛІНА

Пчалярства ў нашай рэспубліцы павінна стаць перспектыўнай галіной. Аб гэтым сведчыць і той факт, што нядаўна беларускі бок выступіў ініцыятарам сумеснай беларуска-расійскай праграмы па развіццю пчалярства. На думку спецыялістаў, гэта праграма вельмі выгадная для нашай рэспублікі. Размова ідзе не толькі аб атрыманні дыетычнага і лекавага прадукту — мёду, але і аб выкарыстанні пчол як апыляльнікаў сельскагаспадарчых культур.

**БелТА.**

## ДАПАМАГАЮЦЬ ВЯСКОЎЦАМ

Па выніках аналізу вытворчай дзейнасці за першае паўгоддзе калектыў ААТ "Кіраўская райсельгасхімія" значна перавыканаў даведзеныя заданні. Так, з запланаваных 44 тысяч тон арганічных угнаенняў на палі гаспадарак вывезена 60,4, мінеральныя ўгнаенні ўнесены на 7722 гектарах замест 3500 па плану. Значна перавыканана заданне па ахове раслін: за 6 месяцаў планавалася апрацаваць супраць шкоднікаў і пустазелля 3000 гектараў, апрацавана ж — 6452. На 163 гектары больш запланаванага правапнавана глеба, рэалізавана паслуг на 80,6 млн. рублёў.

Добрых вынікаў у працы дабіваюцца У.Я.Сакалоўскі, П.П.Адзіянаў, Д.А.Акуліч, П.П.Белакурскі, браты Анатоль і Андрэй Дзікуны, А.В.Хлапкоў, С.Д.Зазерскі, Р.І.Пятроў і іншыя.

Акрамя непасрэднай дзейнасці тут заняліся апрацоўкай драўніны. Ёсць заказчыкі на пастаянную пастаўку піламатэрыялаў, першая партыя ўжо адгружана. Карыстаецца паслугамі па распілоўцы лесу і насельніцтва. За бягучы месяц праз пілараму "прайшло" звыш 30 кубаметраў драўніны прыватнікаў. У касу пачалі паступаць грошы.

# Залатыя медалісты


Алена Леановіч, СШ №1


Інэса Накцава, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага


Дзяніс Лескавец, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага


Юлія Бокая, СШ №1


Святлана Вербінава, Любоніцкая СШ


Аляксандр Шэпшалеў, Жыліцкая СШ


Юлія Бяляўская, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага


Аксана Стэльмакова, СШ №1


Дзмітрый Комар, Любоніцкая СШ


Таццяна Суглобава, Добасненская СШ


Віктар Бай, Любоніцкая СШ


Таццяна Печань, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага

Па склаўшайся традыцыі, мы публікуем на старонках “Кіраўца” фатаграфіі лепшых выпускнікоў раёна — залатых і сярэбраных медалістаў. З адзнакай сёлета школу закончылі 16 чалавек, сярэбраныя медалі атрымалі 17 вучняў. На працягу 11-ці школьных гадоў яны не толькі прыкладна вучыліся, прымалі ўдзел у раённых і абласных прадметных алімпіядах, конкурсах сачыненняў, але і актыўна ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці: аглядах мастацкай самадзейнасці, спаборніцтвах юных інспектараў дарожнага руху, турнірах у клубе вясёлых і знаходлівых і іншых мерапрыемствах. І якую б жыццёвую дарогу ні выбраў кожны з гэтых рабят, яны, безумоўна, будуць карыснымі для Айчыны людзьмі.

Удачы ім пры паступленні ў абраныя навучальныя ўстановы, ні пуху, ні пер’я!


Надзея Маслава, Мышкавіцкая СШ


Вікторыя Баярская, Любоніцкая СШ


Алена Глушакова, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага


Настасся Калікіна, Добасненская СШ

## ПОСЛЕДНИЙ ЗВОНОК

*Отзвучит мелодия
прощальная
Школьного
знакомого звонка,
Отзываясь вам
напоминанием
О счастливых
солнечных деньках.
И пускай уже
сданы учебники,
И давно
уроки позади,
С переливами
звонка последними
Детство так
не хочет уходить.
Впереди пути-
дороги дальние.
Где-то ждет
заветная мечта.
Пусть всегда вам
светит беспечальная
Ваша
путеводная звезда.
И пускай мечта
осуществляется,
Будет цель
достигнута сполна,
Только школа пусть
не забывается –
Детства
беззаботная страна.
И куда б судьба вас
ни забросила,
Унося
в заоблачную высь,
С первым сентября
в начале осени
Ты сюда – пусть в
мыслях – возвратись.
В синей дымке
памяти неверной
Посиди за партой,
улыбнись...
И своей учительнице
первой
Низко-низко
в ноги поклонись.*

Петр ЗВЯГИНЦЕВ.

# Сярэбраныя медалісты


Юлія Ліпоўская, СШ №1


Марына Акуліч, СШ №2 імя К.П.Арлоўскага


Сяргей Малчанаў, Мышкавіцкая СШ


Яніна Пражнікава, СШ№1


Дзмітрый Стромскі, Жыліцкая СШ


Сяргей Старавойтаў, СШ №1


Вольга Шалкоўская, Жыліцкая СШ


Вольга Рудак, СШ №1


Мікалай Шчацько, Баравіцкая СШ


Ганна Бычкова, Жыліцкая СШ


Вольга Шведаўская, Жыліцкая СШ


Мікалай Капейка, СШ №1


Ганна Бяляўская, Мышкавіцкая СШ


Марына Саламаха, СШ №1


Кацярына Шчэрбіч, СШ №1

